Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

КІРАЎНІЦТВА НАРОДНА ГАСПАДАРЧАГА ВУЧОТУ БССР



# ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ НАРОДНА ГАСПАДАРЧЫ ВУЧОТ

№ 4

1 САКАВІКА 1933 г.

Выданьне Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага вучоту БССР
МЕНСК 1933

*Пралетары усіх краёў, злучайцеся.*

Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Вучоту БССР



# ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЯТЭНЬ



## № 4

1 САКАВІКА
1933

## Народна-Гаспадарчы Вучот



МЕНСК 1933

# 1. АФІЦЫЙНЫ РАЗЬДЗЕЛ.

## ПАСТАНОВА СНК СССР

### Аб мерах, якія забясьпечваюць сваячасовае прадстаўленьне справаздач за 1932 г.

Адзначаючы выключнае значэньне сваячасовага складаньня гадавых справаздач за 1932 г., Савет Народных Камісараў Саюзу ССР пастанаўляе:

1. Забараніць, да сканчэньня складаньня гадавых справаздач за 1932 г., усялякага роду мабілізацыі і адцягненьні вучотных работнікаў ведамств і гаспадарчых арганізацый на якія-бы-та ня было іншыя работы.

2. Абавязаць кіраўнікоў ведамств, арганізацый і прадпрыемстваў, пры наліччы недахопаў вучотных работнікаў, забясьпечыць на час складаньня гадавой справаздачы неабходную колькасьць работнікаў шляхам унутранай перагрупоўкі і перакідкі работнікаў з іншых частак апарату.

3. Дапусьціць акордную аплату работы па складаньні гадавых справаздач.

4. Абавязаць усе ведамствы і гаспадарчыя арганізацыі вылучыць сродкі для прэміяваньня вучотных работнікаў за датэрміновае складаньне і высокую якасьць гадавых справаздач.

5. Вылучыць з сродкаў, прадугледжаных па каштарысу Цэнтральнага Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага вучоту на 1933 г., спэцыяльны фонд, у разьмеры ня вышэй 30 тыс. руб., для прэміяваньня вучотных органаў і асобных вучотных работнікаў ведамств і гаспадарчых арганізацый Саюзу ССР за лепшае правядзеньне ўсёй кампаніі па складаньні гадавых справаздач за 1932 г.

6. Савет Народных Камісараў Саюзу ССР падкрэсьлівае, што адказнасьць за сваячасовае складаньне і высокую якасьць гадавых справаздач, побач з кіраўнікамі органаў вучоту і статыстыкі і галоўнымі бухгалтарамі, ускладаецца і на кіраўнікоў адпаведных ведамств, арганізацый і прадпрыемстваў.

*Нам. Старшыні СНК СССР—В. КУЙБЫШАЎ.*

***Нам. кіраўніка справамі СНК СССР—І. МІРОШНІКАЎ.***

## Усім інспэктарам Нар—Гасп. Вучоту

Неабходнасьць захоўваньня касавай і бюджэтнай дысцыплін, а таксама эканоміі выдаткаваньня адпускаемых сродкаў у сучасны момант мае асабліва важнае значэн не для нашай народнай гаспадаркі, і недастаткова сур'ёзныя адносіны да гэтага пытаньня недапушчальны.

Гэта павінна быць цьвёрда ўсвоена кожным работнікам сыстэмы КНГВ, і таму прапаную, пад асабістую адказнасьць інспэктароў Наргасвучоту, не дапушчаць выдаткаваньня асыгнуемых вам грошай не па прамому прызначэньню і не дапушчаць ні ў якім выпадку перавышэньня каштарысных прызначэньняў.

За ўсялякае парушэньне бюджэтнай дысцыпліны буду сурова ўзыскваць.

Зварачваю асаблівую Вашу ўвагу на недапушчэньне перавыдатку зацьверджанага фонду зарплаты і перавышэньня ўстаноўленых акладаў.

Усялякі выпадак перавышэньня ўстаноўленага фонду зарплаты і павышэньня зацьверджаных па дзяржнармаваньню ставак буду разглядваць, як злоўжываньне і, на аснове пастановы СНК СССР ад 3 сьнежня 1932 г., віінаватых буду аддаваць суду.

Нач. Кір. Нар—Гасп. Вучоту БССР С т р а к о ў с к і.

## Усім Райінспэктурам Народна-Гаспадарчага Вучоту

Важаейшай задачай органаў вучоту ў сучасны момант зьяўляюцца своечасовае складаньне і прадстаўленьне ў тэрміны, устаноўленыя ўрадам, гадавых справаздач заключнага году першай пяцігодкі і барацьба за высокую якасьць гэтых справаздач.

Кіраўніцтва Наргасвучоту ўскладае на вас адказнасьць па нагляду за ходам складаньня справаздач па раёне і кантроль своечасовасьці іх прадстаўленьня і іх якасьці, для чаго вам неабходна зараз-жа праверыць ст новішча складаньня гадавых справаздач па калгасах, саўгасах, МТС, кааперацыі і прадпрыемствах, з прыцягненьнем грамадзкасьці для аказаньня належнай дапамогі ў гэтай справе.

Пры выяўленьні вамі затрымкі ў складаньні гадавых справаздач і нядобраякаснасьці іх запаўненьня, паставіць пытаньне на прэзыдыўме РВК аб прыняцьці адпаведных мер ўзьдзеяйнічаньяя, згодна пастановы СНК СССР (пры гэтым прыкладаецца).

Асабліва падкрэсьліваем неабходнасьць поўнага ажыцьцяўленьня ўказаньня Саўнаркому аб забароне, да сканчэньня гадавых справаздач за 1932 г., усялякага роду мабілізацый вучотных работнікаў, як ведамств, гэтак і гасп. арганізацый, на іншыя работы.

Папярэджваем, што ацэнка работы Райінспэктуры будзе дана па якасьці выкананьня гэтай важнейшай гаспадарча-палітычнай справы ў вашым раёне.

Аб выніках тэрмінова паведаміце Кіраўніцтва.

Нач. Кір. Нар—гас. Вучоту БССР С т р а к о ў с к і.

Нач. Арг. Сэктару М а г і д а ў.

РАЗЬДЗЕЛ II

# Да прадстаячай нарады Райінспэктароў

У бліжэйшы час Кіраўніцтвам Наргасвучоту мяркуецца скліканьне нарады райінспэктароў Наргасвучоту ў мэтах падвядзеньня вынікаў сваей работы за мінулы час і распрацоўкі пляну вучотна-статыстычных работ на 1933 г.

Гэтая нарада павінна даць яскравы малюнак становішча вучотна-статыстычнай работы ў кожнай райінспэктуры паасобку, выявіць перашкоды, якія сустракаюцца ў рабоце інспэктур як з боку мясцовых арганізацый, гэтак і з боку сэктароў кіраўніцтва, як кожная інспэктура і, ў прыватнасьці, кожны інспэктар змагаўся і змагаецца за ажыцьцяўленьне пастаноў партыі і ўраду праз правільную пастаноўку вучоту, як інспэктура своечасова сыгналізуе кіруючым органам раёну аб наглядаючыхся прарывах у выкананьні пляну па тэй ці іншай галіне народнай гаспадаркі, ці справа вучоту сапраўды накіравана на дапамогу наладжваньню апэрацыйнага кіраўніцтва і плянаваньня?.

Інспэктуры Нарагасвучоту за мінулы час сваей работы павінны былі асвоіць тыя, палітычнай важнасьці, задачы, якія ўскладзены на органы Наргасвучоту і, ў прыватнасьці, на інспэктуры, як арганізацыі, якія непасрэдна наглядаюць і дапамагаюць наладжваць вучот на прадпрыемстве, ў калгасе, саўгасе і г. д.

Прамова тав. Сталіна на студзеньскім аб'яднаным пленуме ЦК і ЦКК УсеКП(б) аб рабоце ў вёсцы зусім яскрава і выстарчальна выкладае, як клясавы вораг праводзіць сваю шкодніцкую работу ў мэтах зрыву арганізацыйнага ўмацаваньня калгасаў рознымі мэтадамі, у тым ліку і шляхам заблытваньня справаздачнасьці, дачы няправільных лічб і г. д. І вось, у гэтым напрамку, і неабходна інспэктарам Наргасвучоту адчуваць усю сваю адказнасьць за выкарчоўваньне гэтых шкодных мэтадаў клясавага ворагу, выяўляць агэнтаў клясавага ворагу, не забываць, што вучот зьяўляецца адным з вучасткаў, які (вучот) клясавы вораг імкнецца скарыстоўваць у сваіх шкодніцкіх мэтах.

Інспэктуры Народна-гаспадарчага вучоту не павінны замыкацца

ў габінэтных сьценах і чакаць, атрыманьня вучотна-статыстычных матар'ялаў, складаць зводкі і адсылаць у вышэйстаячыя органы. Ня гэта, пэўней кажучы, ня толькі гэта—задача інспэктур, а галоўная задача інспэктур у тым, каб штодзенна інструктаваць і дапамагаць у наладжваньні правільнага вучоту ў нізавых вучастках народнай гаспадаркі, на самых прадпрыемствах, у самых калгасах, саўгасах і г. д., завастрыць клясавую пільнасьць работнікаў вучоту ў сваей штодзеннай рабоце, дабіцца ад кіраўнікоў устаноў, ведамств і арганізацый больш уважлівага падыходу да падбору работнікаў вучоту, сталага нагляду і кіраваньня іх работай, дабіцца ад праўленьня і старшыні калгасу ўразуменьня, што рахункавод у калгасе зьяўляецца адказным па сваей рабоце працаўніком, таксама і статыстык-рахункавод—у сельсавеце, рахунковы працаўнік—у Сельпо і г. д.

Спробы некатарых інспэктароў спасылацца на недастатковасьць укамплектаваньня штату, на яго нізкую кваліфікацыю ніяк ня могуць лічыцца ўважлівымі прычынамі, таму што работнікі інспэктур павінны на самой рабоце вучыцца і вучыць другіх, а, галоўнае, інспэктуры павінны ўцягнуць у сваю работу шырокую рабочую і калгасную грамадзкасьць, з тым, каб вучот ператварыць у сапраўдны кантроль над вытворчасьцю, каб сапраўды ажыцьцявіць указаньні т. Леніна аб усенародным вучоце.

Інспэктары, зьявіўшыся на нараду, павінны прадставіць кароткую але яскравую справаздачу аб прапрацаванай імі за мінулы час рабоце, асьвятляючы ажыцьцяўленьне вышэйпаказаных момантаў.

Асабліва-ж значнае месца на нарадзе павінна заняць распрацоўка пляну вучотна-статыстычных работ на 1933 г., якія павінны праводзіцца паасобнымі сэктарамі Кіраўніцтва самым дэталевым чынам, з тым, каб у далейшай рабоце інспэктароў ня было ніякіх непаразуменьняў і непаладак.

Значную ўвагу пры распрацоўцы пляну на 1933 г. інспэктары павінны зьвярнуць на вучотна-стат. работы ў галіне сельскай гаспадаркі, так як гэтай галіне народнай гаспадаркі інспэктуры павінны ўдзяліць максымум увагі. М.

## Прыняць неабходныя захады да хутчэйшага складаньня гадавых справаздач за 1932 г.

Набліжаецца тэрмін прадстаўленьня прадпрыемствамі сваіх гадавых справаздач за 1932 г. Аднак, з паступаючай інфармацыі аб ходзе складаньня справаздач відаць, што справа гэта ідзе марудным тэмпамі, і маецца пагроза зрыву тэрміну дасылкі справаздач у Кір. Наргасвучоту.

Па арцелях прамкаапэрацыі, інваліднай каапэрацыі і прадпрыемствах Гарсаветаў і РВК справа абстаіць такім чынам, што да гэтага часу маюцца яшчэ скаргі на недасылку адпаведнымі вышэй

стаячымі органамі неабходных форм і інструкцый для складаньня справаздач. Адпаведныя органы нават не паклапаціліся аб забесьпячэньні кіраўніцтва гэтай работы, аб выдзяленьні асоб, адказваючых за складаньне справаздач, аб выпрацоўцы канкрэтнага пляну правядзеньня працы па складаньню справаздач.

Але перашкод, з-за адсутнасьці форм і інструкцый для складаньня справаздач, у сучасны момант ні ў якім разе ня можа быць:

па ўсіх сыстэмах пытаньне аб формах і інструкцыях да іх дастаткова высьветлена, блянкі маюцца, і ўсе прадпрыемствы павінны быць імі забясьпечаны.

У „Бюлятэні" № 3 у артыкуле тав. Мохарта „Гадавое абсьледваньне работы прамысловасьці за 1932 г." з дастатковай яскравасьцю высьветлена пытаньне аб тэй каштоўнасьці, якая надаецца зьместу гадавых справаздач і сваячасовасьці іх атрыманьня. У гэтым-жа артыкуле падкрэсьліваецца, што арганізацыя працы і расстаноўка сіл зьяўляюцца рашаючымі момантамі у данай справе.

Наркаматам, Аб'яднаньням, каапэрацыйным сыстэмам, РВК, Гарсаветам, прадпрыемствам патрэбна ўявіць сабе ўсю сур'ёзнасьць стварыўшагася становішча і прыняць канкрэтныя меры да тэрміновага сканчэньня справаздач.

Ф р ы д л я н д.

## Наладзіць дакладны вучот ходу падрыхтоўкі да веснавой сяўбы — баявая палітычная задача.

Згодна апошніх рашэньняў нашай партыі, яшчэ раз ва ўсю шырыню пастаўлена пытаньне аб тым, што цэнтрам увагі ўсёй нашай працы на бліжэйшы час павінны быць ударная падрыхтоўка і правядзеньне вясеньняй пасяўной кампаніі.

Наш вучотны матар,ял, характарызуючы выкананьне народна-гаспадарчага пляну ў галіне с/г, толькі тады выканае сваю задачу, калі будзе правільна, чотка і сваячасова адлюстроўваць ход падрыхтоўчай кампаніі.

Неабходна адзначыць, што ў паказчыках да вясеньняга севу за сту зень м ц у нас яшчэ няма тэй чоткасьці, тэй дасканальнасьці, якая ад нас патрабуецца.

Так, па цэламу шэрагу ведамстваў вучот яшчэ толькі пачынае наладжвацца, і паказчыкі па становішчу на 1/II з вялікімі цяжкасьцямі удалося толькі атрымаць 14 15/II.

Для таго-ж, каб атрымаць які-я небудзь зьвесткі ў збожжавым Трактарацэнтры, прыходзіцца па некалькі разоў хадзіць і, літаральна, выпрашваць кожную лічбу.

З боку, напрыклад, паасобных працаўнікоў паасобных Аб'яд-

камьняў маецца нейкая баязьнь даваць лічбы, асабліва пляжавыя (Менмалпрамтрэст).

А ў „Лён.—Трактарацэнтры“, на просьбу даслаць адз'н экзэмпляр друкуемай зводкі па падрыхтоўцы кадраў да вясеньняга севу, было адказана:

—„Мы Вам не абавязаны дасылаць ніякіх зводак“...—„Калі хочаце, дык прыдзеце яшчэ раз і перапішэце“...

Ва ўсіх Трактарацэнтрах цэлы шэраг паказчыкаў—альбо няпоўныя, альбо зусім адсутнічаюць на сёнешні дзень (наяўнасьць гаруча-га у МТС, лік калгасаў, у якіх устаноўлены севазвароты, падрыхтоўка кадраў і г. д.).

Кіраўніцтва Наргасвучоту павінна пагэтаму паставіць пытаньне так, каб усе ведамствы дасылалі штодэкадна свае зводкі, бо, калі прыйдзецца матар'ял кожны раз атрымоўваць у парадку зьбіраньня па асобных установах, дык гэта пагражае зрывам у сэнсе якасьці і сваячасовасьці нашых матар'ялаў.

Дабіцца сваячасовай і чоткай лічбы па ходу падрыхтоўкі да вясеньняй кампаніі на сенешні дзень—наша баявая задача.

І гэтыя матар'ялы нам павінны дасылацца не ў парадку добраахвотнасьці кожнай установы, а ў абавязковым парадку, згодна пастановы *СНК СССР* ад 10 сакавіка 1932 г.

*Рэмарк.*

## Наладзіць вучот падсобных прадпрыемстваў.

Наступіў момант, калі нам неабходна праверыць выкананьне пастаноў партыі і ўраду аб палепшаньні рабочага забесьпячэньня, улічыць,—якія маюцца дадатковыя базы па рабочаму забесьпячэньню.

Такой праверкай у нас павінен служыць вучот падсобных с/г. прадпрыемстваў, прымацаваных да фабрык, заводаў, майстэрняў, будаўніцтва і транспарта, маючых сваёй мэтай выключнае забесьпячэньне рабочых кожнай галіны.

Сюды трэба аднесьці:

саўгасы, капгасы, трусатнікі, і адкормачныя пункты, абслугоўваючыя адпаведныя прадпрыемствы.

Самым адказным момантам вучоту зьяўляецца выяўленьне гэтых прадпрыемстваў і іх правільны ўлік, на што асаблівую ўвагу павінны зьвярнуць раённыя інспэктары, якія ўсякімі спосабамі павінны іх ахапіць пры вучоце, не прапускаючы асобных адзінак.

Для высьвятленьня колькасьці аб'ектаў, падлягаючых вучоту, с/г. Сэктарам запатрабаваны ад раённых інспэктараў сьпісы, аднак, ня

гледзячы на тое, што тэрмін прысылкі гэтых сьпісаў даўно прайшоў, некаторыя інспэктуры да гэтага часу іх не даслалі.
Інструмэнтарыем вучоту зьяўляецца картка, якая ўручаецца інспэктарам данаму прадпрыемству і якая, пад адказнасьць інспэктара, павінна быць запоўнена і сваячасова даслана Кіраўніцтву.

*Р. Каральчук.*

## Магілеўскі РВК павінен прыняць неадкладныя захады да зрыўшчыкаў вучоту прадукцыі жывёлагадоўлі

Рэдакцыя нашага Бюлятэня неаднакраць атрымоўвала, і атрымоўвае і зараз, ад Райінспэктур Наргасвучоту лісты, са скаргамі на розныя ведамствы, прадпрыемствы, калгасы, саўгасы і г. д. на няпрысылкі і падчас, наўмысны зрыў апошнімі сваячасовага тэрміну дасылку у Райінспэктуры матар'ялу.

Вузорам у сэнсе зрыву надзвычайна важнай работы, як вучот прадукцыі жывёлагадоўлі, зьяўляецца рад арганізацый Магілеўскага раёну.

Перад намі ляжаць тры дакладныя запіскі ў Магілеўскі РВК ад Райінспэктуры з просьбай аб прыцягненьні да адказнасьці некаторых кіраўнікоў прадпрыемстваў, якія сыстэматычна зрываюць тэрміны дасылкі матар'ялу па вучоту прадукцыі жывёлагадоўлі (згодна пастановы СНК СССР ад 11/V-32 г.).

Здаецца, што патрабаваньні Магілеўскай Райінспэктуры ўпаўне законныя, аднак Магілеўскі РВК ня лічыць патрэбным ня толькі прымаць належныя захады, а, нават, займацца гэтай справай:

ужо амаль два месяцы ляжаць пад спудам у РВК дакладныя запіскі Інспэктуры Наргасвучоту, і за гэты час Інспэктура імкнулася ставіць гэтае пытаньне на прэзыдыуме РВК, але намаганьні інспэктуры засталіся бяз вынікаў.

У гэтым нумары мы зьмяшчаем злосных зрыўшчыкаў вучоту прадукцыі жывёлагадоўлі ў Магілеўскім раёне і просім неадкладна прэзыдыум РВК прыняць адпаведныя захады, бо вялізарнае значэньне гэтай работы ня церпіць ніякіх адтэрміновак.

Сыстэматычна не прысылаюць квартальных картак вучоту прадукцыі жывёлагадоўлі, ня цікавяцца пастаноўкай гэтай работы, што выявілася ў няпрысылцы сваіх прадстаўнікоў на інструкцыйныя нарады, саўгас *„Усход“*, *Калгасы „Казіміроўка“ і „Цішоўка“*. Зрываюць работы калгасныя фэрмы *„Чырвоны Кастрычнік“ Дасовіцкага сельсавету, калгаса „Орці годзьдзя СССР“, Новасельскага сельсавету, калгас „Сацыяліст“ Княжыцкага сельсавету, „Валадарскага“ Пашкоўскага сельсавету, саўгасы „Бакунь“, „Вейна“, „Усход“, калгасы „Чырвоны Партызан“, „Чырвоная Зорка“, „Сьцяг Камунізму“, „Палыкоўская Камуна“, „Арлен“, „Чырвоны Сраборнік“, „Перамога“, „Колас“, „ім. Калініна“, „Барацьбіт“ і рад іншых.*

Рэдакцыя чакае тэрміновага адказу з боку РВК па сутнасьці прыняцьця адпаведных захадаў да злосных зрыўшчыкаў вучоту прадукцыі жывёлагадоўлі.

С.

## Распрацоўка матар'ялаў па вучоту пэрсанала цэнзавай прамысловасьці БССР

Сэктар вучоту працы Кіраўніцтва Народна—Гаспадарчага вучоту БССР у лютым месяцы г. г. прыступіў да распрацоўкі матар'ялаў і. адначасова, вучоту пэрсанала цэнзавай прамысловасьці БССР па становішчу на 1-е студзеня 1933 г.

Гэтым вучотам ахоплены усе працуючыя (рабочыя, служачыя Моп. і вучні) ў цэнзавых прамысловых прадпрыемствах БССР.

Пэрсанал-жа працуючы у прамарцелях, ня улічан.

Праграмай распрацоўкі матар'ялаў і, аднначасова, вучоту прадугледжана вывучэньне шэрагу паказчыкаў, маючых практычнае значэньне у галіне плянаваньня колькасьці пэрсаналу прамысловасьці БССР.

У прыватнасьці, намечана распрацоўка матар'ялу па наступных паказчыках:

1). Разьмеркаваньне рабочых цэнзавай прамысловасьці па сацыяльных сэктарах, Наркаматах і ведамствах у галінным разрэзе.

2) Разьмеркаваньне колькасьці пэрсаналу цэнзавых прамысловых прадпрыемстваў, падпарадкаваных НКЦП, НКЛП і НКСнабу ў галінным разрэзе.

3) Размеркаваньне колькасьці пэрсаналу, занятага у цэнзавай прамысловасьці па галінах прамысловасьці.

4) Разьмеркаваньне пэрсаналу, занятага у цэнзавай прамысловасьці ў раённым разрэзе.

5) Склад фабрычна-заводзкага пэрсаналу па роду і узросту ў галінным разрэзе.

6) Разьмеркаваньне цэнзавых прамысловых прадпрыемстваў і занятага ў іх пэрсаналу—па разьмерах прадпрыемстваў, у галінным разрэзе.

Разьмеркаваньне пэрсаналу, занятага у цэнзавай прамысловасьці, па прафэсыянальных саюзах.

У мэтах вывучэньня інтэрнацыяналізацыі прамысловых прадпрыемстваў, акрамя вышэйпералічанных паказчыкаў, сэктар распрацоўвае і матар'ял аднначасовага вучоту па асноўных нацыянальнасьцях у галінным разрэзе.

Складаньне распрацаўкі матар'ялу па усіх паказчыках намечана у сакавіку м-цы.

Е. В.

## Рыхтуйцеся да перапісу насельніцтва 1933 г.

Пасьля сямігадовага перарыву, ў канцы 1933 г. па усяму Саюзу, згодна пастановы Савету Народных Камісараў Саюзу ССР ад 23-га красавіка 1932 г., будзе праведзен другі па ліку *Усесаюзны перапіс насельніцтва.*

Улічываючы тыя вялізарныя зьмены, якія адбыліся ў колькасьці і складзе насельніцтва за апошнія гады, зусім відавочна, што даныя перапісу 1926 году вельмі застарэлі, і мы карыстаемся лічбамі прыблізнымі.

Перапіс 1933 г.—апэрацыя вельмі важная і складаная, яна патрабуе да сябе належнай увагі ня толькі з боку работнікаў статыстычных органаў, але і усіх установ, арганізацый і ўсяго насельніцтва.

Перапіс 1933 г. дасьць нам ня толькі колькасны падлік насельніцтва і яго складу, як узросны, нацыянальны, прафэсыйна—сацыяльны і г. д., але дасьць нам моцную падставу для плянавай будоўлі нашага гаспадарчага будаўніцтва, бальнічнай сеткі, школьнай і г. д.

Галоўнымі арганізацыйнымі установамі прадстаячага перапісу намячаецца, па магчымасьці, тэрмін для правядзеньня яго, г. значыць у 8—10 дзен, замест 14 дзён пры перапісу 1926, г. і вельмі скарочаны тэрмін для распрацоўкі матар'ялаў—на базе мэханізаванай распрацоўкі.

У адносіне—жа мэтадаў рэгістрацыі, намячаецца шырокае прыцягненьне да канкрэтнега удзелу ў яго правядзеньні як савецкага адміністрацыйнага апарату, так і усёй грамадзкасьці.

Пры перапісу 1933 г. прадугледжваецца устанавіць 4 фармульры:

1. Перапісны ліст, які складаецца на кожную бюджэтную адзінку, г зн. сям'ю, камуну, інтэрнат.

2. Ведамасьць на кожную будоўлю, якая запаўняецца толькі ў гарадзкіх паселішчах;

3. Насельная картка запаўняецца на кожны населёны пункт, які зьяўляеца пунктам гарадзкога тыпу.

4. Сьпіс гаспадарак—для сельскіх мясцовасьцяй.

*Смародзінская*

---

Рэдакцыя чакае паведамленьняў ад райінспэктур, як праходзіць падрыхтоўка да перапісу насельніцтва *Рэдакцыя*

## Выпрацаваць адзіную стандартную вучотную кнігу на кожную мэдустанову

Мною зроблена праверка пастаноўкі вучоту ў мэдустановах, у выніку чаго выяўлена, што вучот у апошніх вядзецца аднолькава, але патрабуе ўпарадкаваньня і выпрацоўкі адпаведных форм.

Справа ў тым, што ўсе мэдустановы вядуць запіс хворых (рэгістрацыя пры яўцы) па розных кнігах альбо сшытках.

Напрыклад, калі зьяўляецца хворы ў мэдустанову, яго запісваюць у якую небудзь кнігу і паказваюць парадкавы нумар, прычым больш ніякіх запісаў не ўтвараецца. Няма таксама ніякіх адзнак аб сацыяльным становішчы хворага, наогул не прадугледжваюцца тыя запатрабаваньні, якія прад'яўляюцца справаздачамі КНГВ.

Я лічу, што для зьнішчэньня гэтых недахопаў трэба выпрацаваць адзіную стандартную кнігу на кожную мэдычную ўстанову, якая-б ахапіла той круг пытаньняў, якія прад'яўляюць справаздачныя формы КНГВ. Інспэктар пры Расонскім РВК *Зоўмэр*

АД РЭДАКЦЫІ:

Выпрацавана зараз форма амбул. журн., які друкуецца Нар. Кам. Аховы Здароўя Форма гэтага журнала адпавядае формам гадавых справаздач.

Да атрыманьня-ж гэтага журнала, неабходна прапанаваць тым лекавым установам, якія да гэтага часу не прыстасавалі яшчэ сваіх кніг да формы справаздач, завесьці вучот згодна патрабаваных форм.

# За дакладныя даныя аб становішчы раздробнай гандлевай сеткі

Парадак вучоту раздробнай гандлёвай сеткі, які існаваў да гэтага часу,—праз гандлёвыя сыстэмы і арганізацыі, не даваў магчымасьці атрымліваць у вызначаны тэрмін дакладныя і вычарпальныя даныя аб гандлёвай сетцы.

Новы парадак, устаноўлены НКФ, згодна пастановы Камітэтаў таварных фондаў і рэгуляваньня гандлю пры СПА СССР ад 4 га ліпеня 1932 г., дае поўную магчымасьць атрымліваць зьвесткі аб гандлёвай сетцы і яе зьменах за кожны квартал.

Згодна пастановы НКФ („Савецкая Беларусь" № 10 ад 12 студзеня г.г.), усе стацыянарныя раздробныя гандлёвыя прадпрыемствы (гандлёвыя кропкі), існаваўшыя на 31/XII-32 г., павінны зарэгістравацца ў Гар. і Райфа шляхам падачы заяў па вызначанай форме ў 4-х экзэмплярах. Пасьля гэтага тэрміну, усе ўноў адчыняючыяся ці зачыняючыяся, а таксама і мяняючыя характар свайго гандлю адзінкі абавязаны падаваць па памянёнай форме заявы ў Гар. і Райфа ў 4-х экзэмплярах, прычым адзін з гэтых 4-х экз. перадаецца інспэктуры Наргасвучоту для распрацоўкі.

У зьвязку з гэтай пастановай, на органы НКФ ускладаецца абавязак—дасесьці да ведама ўсіх гандлёвых сыстэм і арганізацый агрмаджанага сэктару аб неабходнасьці сваячасовай рэгістрацыі падпарадкаваных ім гандлёвых адзінак.

На Інспэктуры Наргасвучоту ўскладаюцца наступныя абавязкі:

1. Дапамагаць органам НКФ у справе вучоту шляхам інфармацыі праз мясцовы друк, праз гарадзкія і раённыя гандлёвыя арганізацыі аб неабходнасьці рэгістрацыі раздробленых гандлёвых прадпрыемстваў (крам, ларкоў).

2 Праверыць падрыхтаванасьць мясцовых органаў НКФ да ўтварэньня рэгістрацыі.

3. Наглядаць за ходам рэгістрацыі і, ў выпадках нездавальняючага становішча з рэгістрацыяй, сваячасова сыгналізаваць аб гэтым КНГВ БССР.

4. Атрыманы матар'ял належным чынам правяраць і, ў строга вызначаны тэрмін, складаць зводкі.

Толькі пры захаваньні пералічаных умоў з боку НКФ і Інспэктур Наргасвучоту, КНГВ будзе мець магчымасьць даваць урадавым і партыйным органам дакладныя даныя аб становішчы раздробнай гандлёвай сеткі.

*А. Забаўскі.*

## Асьвея, Лепель, Сіроціно, Бярэзіно яшчэ не даслалі матар'ялаў аб фактычным будаўніцтве

Згодна пастановы СНК БССР, Сэктар будаўніцтва з канца сьнежня праводзіць перапіс буд-ва за 1931 і 1932 г. г.

Адсутнасьць дакладных даных фізычнага аб'ёму буд-ва за апошнія два гады вылікала неабходнасьць паставіць гэту работу нележным чынам.

Перапісам павінен быць выяўлен аб'ём буд-ва (у натуральным выразе) з кароткай характарыстыкай, у галоўных паказчыках, ям скончанага, таксама і няскончанага, пераходзячага на бягучы год буд-ва.

Здавалася-бы, што гэта работа, пры выкананьні яе у тэрмін, павінна набыць асабліва важнае значэньне ў забесьпячэньні добраякасным матар'ялам апэрацыйна-плянавых органаў.

Але ўсёй важнасьці пытаньняў данай работы яшчэ да гэтага часу не зразумелі некаторыя інспэктары, як *Лепельскага, Сіроцінскага раён ў*, якія зрываюць гэту работу:

ня гледзячы на запросы сэктару буд-ва—паведаміць аб ходзе работы, на працягу 2-х месяцаў ад іх няма ніякага паведамленьня.

Ня лепш абстаіць справа ў *Глускім, Чачэрскім, Гарадокскім, Добрушскім, Крычаўскім раёнах, ад якіх паступіла на сёнешні дзень толькі нязначная частка матар'ялу.*

Згодна пастановы СНК і НКЗБ, Райза павінны адначасова праводзіць і вучот калгаснага і МТС буд-ва, але іх удзел у вышэйпаказаных работах таксама зусім не адчуваецца.

Першымі даслалі матар'ялы раёны: *Мазырскі, Тураўскі, Талачынскі, Бешанковіцкі, Бялыніцкі, Брагінскі, Бягомльскі, Заслаўскі, Камарынскі, Касьцюковіцкі, Лезьнянскі, Плешчаніцкі, Расонскі, Старадарожскі, Старобінскі, Узьдзенскі, Чэрыкаўскі, Чырвона-Слабодзкі, Магілеўскі і Рагачоўскі.*

Плятуцца ў хвасьце:

*Аршанскі, Гарадокскі, Глускі, Дубровенскі, Суражскі, Чачэрскі раёны.*

Зусім адсутнічаюць матар'ялы па *Асьвейскаму, Лепельскаму, Сіроцінскаму, Бярэзінскаму, раёнах*

*А. Кульган.*

## Перапіс фактычнага будаўніцтва ў Бабруйску.

Перапіс фактычнага будаўніцтва ў Бабруйскім раёне пачаўся з некаторым спазьненьнем з прычыны адсутнасьці рэгістратараў. Але, дзякуючы шэрагу мерапрыемстваў, перапіс па калгаснаму і МТС будаўніцтву Бабруйскім Райза зараз ужо скончаны, і блянкі адасланы яшчэ 8/І-33 г., прычым, улічваючы скончэньне гэтай працы ў належны тэрмін і высокую якасьць матар'ялу, Бабруйская інспэктура паставіла пытаньне аб прэміраваньні тэхніка Райза т. *Пыжа.*

Што-ж датычыцца гораду, дык скančэньне гэтай працы затрымліваецца выключна і па сёнешні дзень з-за адсутнасьці рэгістратараў, у асаблівасьці для прыватных забудоўшчыкоў, якіх у Бабруйску вельмі шмат, а рэгістратараў усяго працуе два.

Для хутчэйшага сканчэньня гэтай працы мабілізаван, нават, апарат інспэктуры, які, акрамя сваей непасрэднай плянавай працы, праводзіць і гэтую рэгістрацыю.

*Ляўковіч.*

Перапіс буд-ва па г. Бабруйску на сёнешні дзень яшчэ ня скончаны.

Прычына-жа, выстаўляемая ў даным выпадку інспэктурай: „адсутнасьць рэгістратараў",—ня можа служыць тут апраўданьнем, бо да гэтага часу можна было ўжо даўно скончыць працу, і гэта даведзена на прыкладзе большай колькасьці гарадоў БССР.

Што-ж датычыцца калгаснага буд-ва, то узьнікае сумненьне ў адносінах паўнаты вучоту, так як у Бабруйскім р—не складзена ўсяго 75 картак, а фактычна маецца значна больш. Нельга дапусьціць, каб на працягу 2-х гадоў было такое невялікае буд-ва!.

*Сэктар Вучоту Будаўніцтва.*

## Што паказала абсьледваньне Пятрыкоўскай райінспэктуры Наргасвучоту

(Вынікі абсьледваньня працы Пятрыкоўскай Райінспэктуры)

Праведзенае Сэктарам Арганізацыі і Рэканструкцыі Вучоту ў студзені 1933 г. абсьледваньне працы Пятрыкоўскай Райінспэктуры паказала, што за час свайго існаваньня (верасень 1932 г.—студзень 1933 г.) паказаная Райінспэктура ня справілася з тымі асноўнымі задачамі, якія стаяць зараз перад органамі Народна-Гаспадарчага Вучоту ў галіне чоткасьці і апэрацыйнасьці выкананьня вучотных работ, прадугледжаных плянам. Яна ня стала сапраўдным кіраўніком і арганізатарам усяе вучотнай справы ў раёне і, больш таго, Райінспэктура апынулася ў надзвычайна цяжкім становішчы з выкананьнем апэрацыйных заданьняў галінных сэктароў Кіраўніцтва Народна—Гаспадарчага Вучоту, што бачна з матар'ялу абсьладваньня.

*1. Па арганізацыі працы:.*

Не праведзена падрыхтоўчая праца да складаньня зводнага пляну вучотнай працы па раёну на 1933 г.; не праведзена ніводнага абсьледваньня пастаноўкі вучотнай справы ў ведамственных арганізацыях і прадпрыемствах раёну; нічога ня зроблена для папулярызацыі пастановы СНК БССР ад 13 жніўня 1932 г. № 423 „Пра палепшаньне Народна—Гаспадарчага Вучоту" (Пастанова зьмешчана ў брашуры „Інструкцыйныя ўказаньні аб рабоце Райінспэктур"); не арганізацыі

заваны сацыялістычныя мэтады працы, як у апараце самой Райінспэктуры, так і сярод вучотных ячэек прадпрыемстваў і ўстаноў раёну; не разьмеркаваны абавязкі сярод работнікаў Райінспэктуры, не заведзены справы на 1933 г. і не ўпарадкаваны гэтакія за 1932 г.; кульгае вытворчая дысцыпліна, амаль па вучоту ўсіх галін інспэктурай правалена работа...

2. *Па вучоту прамысловасьці:*

Ня скончана рэгістрацыя прампрадпрыемстваў сацсэктару (з 46 аб'ектаў, зарэгістравана 41), не заведзен каталёг маючыхся зашыфраваных пашпартоў, не наладжан вучот бягучых зьмен на прампрадпрыемствах, а таксама нагляд за складаньнем і дасылкай у Сэктар Прамысловасьці КНГВ гадавых справаздач аб дзейнасьці прампрадпрыемстваў.

3. *Па сельска-гаспадарчаму вучоту.*

Ня складзены раённыя зводкі аб жывёле па матар'ялах Наркамфінаўскага вучоту 1932 г. (не атрыман матар'ял ад Белкаўскага і Макарыцкага сельсаветаў), ня гледзячы на 5-ці месячнае спазьненьне; нездавальняюча працякае пакварта́льны вучот стада і прадукцыі жывёлагадоўлі ў калгасных жывёлагадоўчых фэрмах і саўгасах (матар'ял атрымліваецца з вялікім спазьненьнем і нізкай якасьці), не закладзены своечасова запісы эфэктыўнасьці агратэхмерапрыемстваў; ўраджаю ў 10 калгасных раёнах (спазьненьне—каля трох месяцаў) і амаль па вучоту усіх галін інспэктурай правалена работа...

Чым-жа тлумачыцца і чым выкліканы прычыны, прывёўшыя Райінспэктуру да шэрагу прарываў?

Пераходзячы да аналізу гэтых прычын, патрэбна адзначыць:

1. Адсутнасьць належнага вопыту ў працы работнікаў Райінспэктуры, нізкая кваліфікацыя і іх вялікая цякучасьць.

2. Недастатковыя ўпартасьць і настойлівасьць Райінспэктуры пры правядзеньні тэй ці іншай вучотнай апэрацыі.

3. Адсутнасьць вучотнай дысцыпліны, коснасьць і бюракратычныя адносіны да вучотнай справы з боку некаторай часткі вучотных ячэек прадпрыемстваў і ведамственных арганізацый раёну (асабліва гэта датычыцца саўгасаў).

4. Недаацэнка Райінспэктурай растлумачальных мэтадаў працы шляхам правядзеньня інструкцыйных нарад і пэрыядычных абсьледваньняў прадпрыемстваў і ведамственных арганізацый.

Аднак, калі ўзяць пад увагу, што ўсе пералічаныя прычыны зараз пераможаны, дык акажацца, што занепад у працы Пятрыкаўскай Райінспэктуры стварыўся ў выніку нездаровых хістаньняў Райінспэктара: „Працаваць ці не працаваць яму ў галіне вучоту?" у выніку недаацэнкі вучотнай справы Райінспэктара, у выніку адсутнасьці з боку

Райінспэктара настойлівага, упартага змаганьня за выкананьне пляну вучотных работ. У мэтах хутчэйшай ліквідацыі прарываў у працы Райінспэктуры і стварэньня належных умоў для перабудовы працы Райінспэктуры ў адпаведнасьці з дырэктывамі партыі і ўраду, неабходна безадкладна правесьці і ажыцьцявіць наступныя мерапрыемствы:

1) *У галіне арганізацыі працы*:

а) Укамплектаваць Інспэктуру належным кадрам работнікаў і дабіцца поўнага спыненьня цякучасьці статработнікаў.

б) Правесьці падрыхтоўчую працу па складаньні зводнага пляну вучотна-статыстычных работ на 1933 г., шляхам запатрабаваньня ад ведамственных арганізацый раёну іх галінных плянаў вучотна-статыстычных работ. Па атрыманьні апошніх, а таксама па атрыманьні зводнага пляну работ ад КНГВ, безадкладна прыступіць да прапрацоўкі і складаньня зводнага пляну работ Райінспэктуры і, ў далейшым, на падставе зводнага пляну, складаць штомесячныя і пакварталныя апэрацыйныя пляны працы.

Складзены зводны плян працы—прапрацаваць на шырокай вытворчай нарадзе работнікаў Райінспэктуры сумесна з прадстаўнікамі аддзелаў Райвыканкому, прадпрыемстваў і ведамственных арганізацый раёну.

Копію складзенага і абгаворанага зводнага пляну працы накіраваць у Сэктар Арганізацыі і Рэканструкцыі Вучоту КНГВ.

в) Уключыць ў зводны, а таксама і апэрацыйны пляны некалькі аб'ектаў для правядзеньня абсьледваньня пастаноўкі вучотна-статыстычнай працы ў прадпрыемствах, сельсаветах і ведамственных арганізацыях раёну і вынікі гэтага абсьледваньня абгаварыць на вытворчых нарадах з удзелам працоўнай грамадзкасьці.

Мэта такога абсьледваньня — пастаноўка вучотна-статыстычнай працы абсьледуемай установы ці прадпрыемства на належную вышыню, удасканаленьне пярвічнай вучотнай дакумантацыі, зьнішчэньне момантаў паралелізму і інш. адмоўных зьявішч.

г) Арганізаваць сацыялістычныя мэтады працы як у апараце самой інспэктуры, так і сярод вучотных работнікаў ведамственных арганізацый і прадпрыемстваў у раёне, шляхам выкліку іх на сацспаборніцтва работнікамі Райінспэктуры, прычым працу гэту трэба праводзіць у цесным кантакце з раймясцкомам, РДУ пры Райвыканкоме.

д) Разьмеркаваць абавязкі сярод работнікаў Райінспэктуры адпаведна кваліфікацыі апошніх (прыкладная схэма разьмеркаваньня дадзена) і завесьці штодзённы ўлік працы кожнага работніка па форме таблічкі з паказаньнем назвы работы, колькасьці падлічаных ці правераных аб'ектаў і колькасьці патрачанага часу.

е) Сыстэматычна, не радзей 2-х разоў у месяц, наладзіць склі-

каньне вытворчых нарад работнікаў Райінспэктуры, для прапрацоўкі вытворчых заданьняў, пытаньняў вытворчай дысцыпліны і інш.

2) *У галіне вучоту прамысловасьці:*

а) Поўнасьцю ліквідаваць запазычанасьць па рэгістрацыі прампрадпрыемстваў Сацсэктару за 1932 г. шляхам выезду работнікаў Райінспэктуры на месцы для дапамогі ў гэтай працы работнікам калгасаў.

б) На падставе зашыфраваных пашпартоў, зьвернутых Прамсэктарам, завесьці каталаг прампрадпрыемстваў Сацсэктару раёну, згодна інструкцыйных указаньняў, зьмешчаных у „Бюлятэні КНГВ“ № 2 на старонках 11, 12, 13 і 14.

Абвясьціць усім прампрадпрыемствам, што яны, згодна пастановы СНК ад 4 жніўня 1932 г., абавязаны ў 10-ці дзённы тэрмін паведамляць Райінспэктуры аб усіх зьменах, адбыўшыхся на прадпрыемствах (узьнікненьне новых прадпрыемстваў, ліквідацыя існуючых, астаноўка на рамонт, пуск пасьля рамонту, перамена назвы і г. д.) для дасылкі апошнім спэцыяльных картак рэгістрацыі зьмен, якія, пасьля адпаведнага запаўненьня, накіроўваюцца прадпрыемствамі ў 2 х экз. ў Райінспэктуру, а апошняя, пасьля праверкі і кантролю, накіроўвае іх у Прамсэктар КНГВ БССР.

в) Сваячасова атрымаць запоўненыя фармуляры па абсьледваньні вытворчасьці будтатар'ялаў за 1932 г. ад цагельных заводаў, праверыць іх і 1 экз. накіраваць Прамсэктару Кір. Нар. Гасп. Вучоту.

3) *У галіне сельска-гаспадарчага вучоту:*

а) Паставіць пытаньне перад прэзыдыумам Райвыканкому аб прыцягненьні да адказнасьці Макарыцкага і Белкаўскага сельсаветаў за зрыў працы па вучоту жывёлы за 1932 г.

б. Упарадачыць пакварталь**ны** вучот пагалоўя і прадукцыі жывелагадоўлі ў саўгасах і калгасных таварных жывелагадоўчых фэрмах, поўнасьцю ліквідаваць запазычанасьць па гэтаму вучоту за мінулы год, ужываючы ўсе меры ўзьдзейнічаньня (праз друк, тэлефон, напамінкі).

Практыкаваць пэрыядычнае склікан**ь**не інструкцыйных нарад загадчыкаў калгасных жывелагадоўчых фэрм і рахункаводаў па пытаньнях лепшай арганізацыі і пастаноўкі гэтага вучоту на 1933 г.

Асаблівую-ж увагу зьвярнуць пры гэтым на добрую якасьць матар'ялу.

в) Паколькі заўважана, што амаль усе таварныя фэрмы не запаўняюць пункту „Рух кармоў за квартал“, альбо пішуць, што вучот кармоў не вядзецца, прасачыць за выкананьнем дадзенага распараджэньня раённаму жывёлагадоўчаму цэнтру аб арганізацыі і дапамозе калгасным фэрмам у справе пастановак іпаказанага вучоту кармоў.

г) Ажыцьцяўляць сыстэматычны нагляд за вядзеньнем у 10 вылучаных калгасах запісаў у журнале агратэхмерапрыемстваў і ураджаю і сваячасова запаўняць зводныя табліцы па "Абаротных" экз. гэтых журналаў.

*4) У галіне Вучоту Працы і Насельніцтва:*

а) Поўнасьцю ліквідаваць запазычанасьць па вучоту працы, заработнай плаце і арганізацыі працы за 1932 г.

б) Ліквідаваць запазычанасьць па штомесячнаму вучоту адыходніцтва сельскага насельніцтва за 1932 г. і завесьці ўлік паступаючага матар'ялу ад сельсаветаў.

в) У дэкадны тэрмін скончыць складаньне параённага сьпісу населенных пунктаў з паказаньнем насельніцтва за 2 гады — за 1931 і 1932 г. у разрэзе сельсаветаў, рашуча ўзьдзейнічаючы на адстаючыя сельсаветы. Матар'ялам-жа для запаўненьня гэтага сьпісу служаць ітогавыя даныя НКФінаўскага вучоту аб'ектаў абкладаньня па асобных населеных пунктах, а таксама матар'ялы перапісу Белкаапсаюзу па гарадох і мястэчках, праведзенага ў красавіку 1932 г.

г) Шляхам растлумачальнай працы сярод работнікаў сельсаветаў, зьнішчыць запазычанасьць па натуральнаму руху насельніцтва за лістапад і сьнежань месяцы і дабіцца сваячасовай дасылкі матар'ялаў на працягу 1933 г.

*5) У галіне вучоту будаўніцтва і камунальнай гаспадаркі:*

а) У тыднёвы тэрмін поўнасьцю скончыць вучот фактычнага будаўніцтва за 1931 і 1932 г., шляхам выезду на месцы для кіраўніцтва і арганізацыі гэтай працы

в) Паставіць на належную вышыню бягучую рэгістрацыю будаўнічых работ 1933 г. па фармулярах, дасланых Кіраўніцтвам Нар. Гасп. Вучоту БССР (згодна пастановы СПА СССР ад 20 верасьня 1932 г., пастановы ЦКНГВ СССР ад 22 сьнежня 1933 г. і інструкцыйнага артыкулу, зьмешчанага ў інфармацыйным „Бюлятэні" КНГВ № 3 на стр. 3 і 4, 20 і 21).

*6) У галіне вучоту снабжэньня і гандлю:*

а) Паколькі матар'ял перапісу гандлевай сеткі і кадраў накіраваны ў КНГВ бяз зводак, атрыманы матар'ял ад „Загатзярна" трэба праверыць і зараз-жа накіраваць у сэктар Снабжэньня і Гандлю КНГВ.

в) Шляхам наведваньня Райфа, высьвятляць становішча працы па рэгістрацыі сеткі прадпрыемстваў раздробнага гандлю па раёну па становішчу на першае студзеня 1933 г. і сумесна выпрацаваць мерапрыемствы для хутчэйшага сканчэньня гэтай працы, пасьля чаго, па атрыманьні блянкаў раенных зводак ад КНГВ і матар'ялаў рэгістрацыі ад Райфінаддзела, безадкладна приступіць да кантроля і складаньня зводак.

2) Сваячасова падрыхтаваць і правесьці пакварталыны вучот звароту гандлевых прадпрыемстваў, ня маючых рэспубліканскага цэнтру.

*7) У галіне вучоту сацыяльна—культурных мерапрыемстваў:*

а) Поўнасьцю сабраць ад мэдычных установ матар'ял вучоту вынікаў першай пяцігодкі і гадавых справаздач аб дзейнасьці мэдустаноў за 1932 г.

б) Наладзіць паступленьне стат-таленаў ад мэдустаноў раёну (за выключэньнем фэльдшарскіх пунктаў) па рэгістрацыі пярвічных, наведваньняў за 1932 г., арганізаваць належную праверку матар'ялу і бяз усякай затрымкі, накіраваць гэтакі у сэктар Сацыяльнай Статыстыкі КГНВ БССР.

г) Прасачыць за правядзеньнем бягучага абсьледваньня культасьветных устаноў і ўстаноў масавай палітасьветы па лініі РАНА, адначасова закончыць вучот рабселькораўскага руху і газэт (шматтыражак і раённых газэт).

*8) Па складаньні аглядаў выкананьня Народна-Гаспадарчага Пляну*

а) Весьці падрыхтоўчую працу да складаньня штомесячных і пакваргальных аглядаў выкананьня Народна-Гаспадарчага Пляну шляхам падбору, сыстэматызацыі і аналізу матар'ялаў, характарызуючых выкананьне пляну ў паасобных галінах народнае гаспадаркі. Пры гэтым, як падручным дапаможнікам інструкцыйнага парадку, кіравацца артыкулам начальніка сэктару Зводна-бягучай Статыстыкі тав. Гоўзмана, зьмешчаным у інфармацыйным „Бюлятэні“ КНГВ БССР № 3 ад 1-га лютага (стар. 26-27), і прапановамі, зьмешчанымі ў матар'ялах папярэдняга абсьледваньня Пятрыкоўскай Райінспэктуры, якія да гэтага часу ня выкананы (стар. акта 7-8)

Матар'ялам па складаньні аглядаў па выкананьні народна-гаспадарчага пляну служаць:

*а) Па прамысловасьці:*

Штомесячныя карткі тэрміновых данясеньняў, дасылаемыя прампрадпрыемствамі сваім Наркаматам, а копіі—Райінспэктуры НГВ.

б) Для асьвятленьня пытаньняў працы, цякучасьці рабсілы мажліва ск ры тоўва ь атрымоўваемыя ад прадпрыемстваў, саўгасаў і МТС штомесячныя карткі па вучоту працы.

*в) Па Сельскай гаспадарцы:*

—Матар'ялы справаздачы Райза, МТС, Райжывелагадоўчага цэнтру, Раеннай Вучотна-кантрольнай камісіі, прычым тут неабходна асьвятляць наступныя моманты:

выкананьне плянаў агра-тэхнічных мерапрыемстваў і ўраджаю; ход пасеўнай і ўборачнай кампаній (проц. выкананьня і аналіз прычын перавыкананьня альбо недавыкананьня, мэтады адхіленьня прычын недавыкананьня); становішча жывелагадоўлі, у тым ліку выкананьне пляну ўкамплектаваньня аб'агуленага стада.

Пры гэтым, пытаньне арганізацыйна-гаспадарчага умацаваньня калгасаў павінна знайсьці свой адбітак у складаемых аглядах, з пункту погляду выкананьня 6-ці гістарычных умоў тав. Сталіна (пераход на зьдзельшчыну, ліквідацыя абязьлічкі і ураўнілаўкі, разьмеркаваньне калгаснага ураджаю і др.)

Далей—параўнальная дынаміка калектывізацыі па месяцах і ін-





шыя пытаньні сельскай гаспадаркі, прычым усе дадзеныя праводзяцца ў сэктарыяльным разрэзе.

г) *У галіне снабжэньня і гандлю*

Матар'ялы і справаздачы Райснаба, Райсаюзу Спажывецкай кааперацыі па выкананьні плянаў здачы дзяржаве сельска-гаспадарчых прадуктаў і сыравіны, ход дэцэнтралізаваных нарыхтовак, разгортваньне калгаснага базарнага гандлю і сумавыя астачы тавараў гандлюючай сеткі на канец месяца з выдзяленьнем пытаньня,—на якую суму маецца няходкіх тавараў для данай мясцовасьці.

д) *Па будаўніцтве і камунальнай гаспадарцы.*

Матар'ялы і справаздачы бударганізацый і Камунаддзелаў аб ходзе будаўніцтва важнейшых аб'ектаў, забясьпечанасьць рабсілай, дэфіцытнымі і мясцовымі будматар'яламі, ступень скарыстаньня мясцовых будматар'ялаў, астача дэфіцытных матар'ялаў; выпрацоўка электраэнэргіі для спажывецкіх патрэб электрастанцыямі камунальнага значэньня.

Апрача пералічаных пытаньняў, у складаемых аглядах неабходна паступова асьвятляць пытаньні фінансаваньня асобных галін народнай гаспадаркі, выкананьне пляну капіталаукладаньняў у паасобныя галіны народнай гаспадаркі, ход выкананьня пляну мабілізацыі сродкаў насельніцтва, у тым ліку рэалізацыя пазык.

У аглядах выкананьня пляну народна—гаспадарчай дзейнасьці пераважна прэвалюе тэкставая ці апісацельная форма; матар'ял жа таблічнага характару уводзіцца для пацьвярджэньня асноўных пытаньняў тэксту.

Сладзены агляд абавязкова дакладваць прэзыдыўму РВК у пачатку наступнага за справаздачным м-ца, а копію накіраваць у КНГВ,—Сэктар Зводна-бягучай статыстыкі

У бліжэйшы час Сэктарам Арганізацыі і Рэканструкцыі Вучоту рассылаюцца раённым інспэктарам Наргасвучоту сшыткі дапаможных форм для вучоту выкананьня галіных плянаў з кароткімі інструкцыйнымі указаньнямі да іх запаўненьня.

Пасьля атрыманьня гэтых сшыткаў і належнага іх запаўненьня, задача складаньня штомесячных аглядаў выкананьня народна-гаспадарчага пляну Райінспэктарамі будзе значна палегчана

Раённы Інструктар *Русецкі.*

## Падводзім вынікі І-ай пяцігодкі.

(Выкарыстаць вопыт Бабруйску)

У мэтах падвядзеньня вынікаў работы прадпрыемстваў і арганізацый гораду Бабруйску і раёну за 1-ю пяцігодку, Бабруйская Інспэктура зараз праводзіць збор матар'ялаў ад устаноў, арганізацый прадпрыемстваў па ўстаноўленых для іх кароткіх паказчыках.

Вялікая частка гэтага матар'ялу ўжо паступіла.

Ва ўмовах падвядзеньня агульных вынікаў нашых дасягненьняў па ўсяму Савецкаму Саюзу,—гэты матар'ял мясцовых дасягненьняў мае асаблівае значэньне, прычым, акрамя прамысловых прадпрыемстваў, матар'ял сабраны таксама ад іншых кааперацыйных, гандлёвых арганізацый, раённых устаноў і г. д

Характарыстыка даных матар'ялаў сьведчыць аб тых вялізарнейшых дасягненьнях, якія маюць горад Бабруйск і раён за першую пяцігодку.

Лічу, што гэтакае самае мерапрыемства можна ўпаўне, зараз-жа, правесьці і па астатніх больш буйных гарадох і раёнах, што, бязумоўна, дасьць вялікі матар'ял аб нашых дасягненьнях у кожным раёне.

*Ляўковіч.*

## Адказваем на выклік 17-ці райінспэктароў

Для выкананьня заданьняў па вучоту працы зарплаты, арганізацыі працы ў прадпрыемствах, саўгасах і будаўніцтвах і выкананьня прамфінпляну бярэм на сябе наступныя абавязкі:

1. Своечасова правяраць паступаючыя ад прадпрыемстваў і ўстаноў матар'ялы, рабіць усе неабходныя запытаньні.

2. Атрымоўваемыя з Кіраўніцтва карткі і блянкі ў 2-дзенны тэрмін рассылаць адпаведным прадпрыемствам і ўстановам.

3. Для ліквідацыі запазычанасьці за мінулыя месяцы абавязуемся прыняць усе захады да атрыманьня картак ад адпаведных прадпрыемстваў і ўстаноў і адсылкі іх у Кіраўніцтва Наргасвучоту ў 10-ці дзённы тэрмін.

4. У далейшым, сурова сачыць за паступленьнем матар'ялу ў вызначаны тэрмін.

5. Падняць якасьць зьвестак у памяненых картках шляхам скліканьня працаўнікоў прадпрыемстваў і устаноў на інструктаж і асабістага наведваньня для праверкі пастаноўкі вучоту і інструктажа

6. Завастрыць грамадзкую думку вакол пытаньня вучоту шляхам зьмяшчэньня ў друку адпаведных допісаў і сьпісаў як лепшых прадпрыемстваў, выконваючых свае абавязкі па вучоту, таксама і адстаючых у гэтай справе.

У мэтах выкананьня ўзятых на сябе абавязкаў, выклікаем усіх адпаведных працаўнікоў-бухгальтароў, эканамістаў, плянавікоў і статыстыкаў аб'явіць сябе ўдарнікамі і ўзяць на сябе наступныя абавязкі:

1. Акуратна, у вызначаныя тэрміны, дасылаць усе стат-матар'ялы
2. На працягу 7-мі дзён ліквідаваць запазычанасьць.
3. Узьняць якасьць дасылаемых зьвестак і сачыць за паўнатой іх запаўненьня

Эк.—плянавік пры Магілеўскім РВК ЮРЭВІЧ.

Ст. Інстр. пры Інспэкт. НГВ СЬЛЕЗКІНА

* * *

Мы, працаўнікі Жлобінскай Райінспэктуры Наргасвучоту, прымаем выклік 17-ці Райінспэктур БССР і ўключаемся ў сацспаборніцтва на лепшае і своечасовае правядзеньне ўсіх работ, ускладзеных на Райінспэктуру, канкрэтна пералічаных у выкліку 17 ці Райінспэктур НГВ, і, з свайго боку, выклікаем на сацспаборніцтва ўсе іншыя інспэктуры, якія яшчэ ня ўключыліся ў сацспаборніцтва.

Інспэктар НГВ. ПУШЧЫН.

Інструктар—стат. МАЙСЕЕНКА

Статыстык НІКАЛАЕЎ

## Начальніку Кіраўніцтва Наргасвучоту т. Стракоўскаму.

*(Адкрыты ліст Гомельскай інспэктуры Наргасвучоту)*

У трэцім нумары інфармацыйнага Бюлятэня Гомельская Інспэктура Наргасвучоту паказана у ліку першых „зрыўшчыкаў" камунальнага перапісу.

Інспэктура зьвяртаецца да вас з наступнай просьбай:

высьветліць у рэдакцыі, ці правяралася ею правільнасьць вестак, даваемых сэктарам Камунальнай Гасп., бо Інспэктура скончыла камунальны перапіс ня толькі па сваіх 2-х гарадох—Гомелі і Добрушу, але яшчэ і па Буда-Кашалеўскім раёне.

Матар'ял па Гомелі, ў асноўным, быў высланы да 15/XI-32 г.; апошнія 2 блянкі (пажарнай арганізацыі) былі высланы 2/XII-32 г., а апошні матар'ял па Добрушы быў высланы 25/XI 32 г., акрамя блянку Добрушскай электрастанцыі, які высланы 21/I-33 г. Прычына-ж гэтага спазьненьня высылкі блянку Добрушскай электрастанцыі (паведамлялася некалькі разоў) з пачатку —катэгарычная адмова дачы вестак з боку ф-кі „Гэрой Працы", а потым, калі, ў выніку адносін Старшыні Гарсавету і вашай асабістай, весткі былі атрыманы—крадзеж блянкаў у час пажара ў Б.—Кашалёўску і вымушанае паўторнае запаўненьне блянку (і зноў з цяжкасьцямі).

Матар'ял жа па Б-Кашалеўскаму раёну адасланы увесь 17/XI-1932г а апошнія 2 блянкі (таксама запоўненыя у другі раз з-за пажару)—29/XII-32 г.

Трэба адзначыць, што Інспэктура няэьлічоную колькасьць разоў паведамляла аб тым, што перапіс ею скончаны (акрамя, бязумоўна, Добрушскай электрастанцыі), паведамляла даты і нумары адасланага матар'ялу, прадстаўляла арыгіналы гэтых матар'ялаў ў распараджэньне прыяжджаючых супрацоўнікаў КНГВ, каб зьняць з нехапаючага матар'ялу копіі (што, паміж іншым, зроблена ня было), бо „спадзявалісясь ўсе-ж знайсьці ў сябе,-ў Сэктары"). Таксама трэба адзначыць, што, з самага пачатку, ў Кіраўніка перапісу была няправільная ацэн-

ка ходу работы у Гомелі, аб чым сьведчыць зусім дарэмны адрыў ад работы у Бабруйску і камандыроўка ў Гомель т. Кульгана 21/ІХ-32г на ліквідацыю прарыву, у той час, як інструктаж ца перапісу быў вызначаны толькі на 30/ІХ-32 г.

Выходзячы з усяго гэтага, Гомельская Райінспэктура Наргасвучоту лічыць, што ганебнага прозьвішча „зрыўшчыка" яна не заслужыла і просіць перадаць рэдакцыі „Інфармацыйнага Бюлятэня" усе правільныя матар'ялы па ходу камунальнага перапісу па Гомельскаму раёну, з тым, каб у будучым нумары „Інфармацыйнага Бюлятэня", было паведамлена, што для занясеньня Гомеля на дошку „зрыўшчыкаў" камунальнага перапісу ніякіх падстаў ня было.

Інспэктар Наргасвучоту *Флеер*

Эканаміст *Томберг*

## Факты гавораць аб адваротным!

(Адказ на ліст Гомельскай Райінспэктуры).

У трэцім нумары „Інфармацыйнага Бюлятэня" былі занесены ў лік адстаючых некаторыя інспэктуры Наргасвучоту за зрыў камунальнага перапісу.

Пасля выпуску ў сьвет гэтага Бюлятэня, з боку інспэктур пачалі паступаць лісты аб тым, што іх няправільна занесьлі на чорную дошку і што яны правялі камунальны перапіс у тэрмін.

Ці так гэта?

Тэрмін сканчэньня перапісу камунальнай гаспадаркі плянам быў вызначан—першае лістапада 1932 г.

Як-жа вытрымала гэты тэрмін Гомельская Інспэктура, якая ўпар та даказвае і лічыць сябе аднэй з скончыўшых у тэрмін (!?) перапіс камунальнай гаспадаркі і гарадзкога дабрабыту?

Вось што піша Гомельская Інспэктура ў сваей адносіне ад 5/ІІ-33 г. за № 0205/503а:

„Мятар'ял па Гомелі, у асноўным, быў высланы да 15/ХІ-32 г., а апошнія 2 блянкі (пажарныя арганізацыі) былі высланы 2/ХІІ-32 г.

Апошні матар'ял па Добрушы быў высланы 25/ХІ 32 г., акрамя блянку Добрушскай электрастанцыі, які высланы 21/І-33 г."

Згодна цыркуляру № 1 ЦКНГВ СССР, тэрмін сканчэньня складаньня рэспубліканскай зводкі быў вызначаны 15 студзеня 1933 г.

Такім чынам, Гомельская Інспэктура ня вытрымала сваячасовага тэрміну сканчэньня перапісу—1-ае лістапада 1932 г. чым сарвала нам тэрмін прадстаўленьня рэспубліканскай зводкі ў ЦКНГВ СССР.

Таксама і Чырвона Слабодзкая Інспэктура скардзіцца, што яе занесьлі ў сьпіс зрыўшчыкаў.

Вось што піша Чырвона-Слабодзкая Інспэктура ў сваей адносіне ад 18 студзеня 1933 г. за № 9053:

„Чырвона-Слабодзкая Інспэктура Наргасвучоту неаднакрацъ па ведамляла, што перапіс камунальнай гаспадаркі скончаны. На тэрыторыі м-ка Чырвоная-Слабада было 6 аб'ектаў вучоту, на якія мы запоўнілі і даслалі вам фармуляры, аднак вы патрабуеце формы № 16, 20, 21, 22, 23 і 2.

Дасылаем для фармальнасьці (?) фармуляры № 16, 20, 21 і 23"

Чулі!..

Чырвона-Слабодзкая Інспэктура зрабіла нам ласку, выслаўшы 18 студзеня 1933 г. фармуляры па дабрабыту райцэнтра.

Партыя і ўрад максымум увагі ўдзяляюць дабрабыту паселішч, а Чырвона-Слабодзкі інспэктар лічыць гэту справу нікчэмнай, непатрэбнай, фармальнай:

шэсьць аб'ектаў, якія даслаў гэты інспэктар, мы атрымалі дзякуючы т. Скрыпко (інспэктар Слуцкага раёну), які прыняў усе захады, каб прымусіць Чырвона-Слабодзкага інспэктара правесьці перапіс камунальнай гаспадаркі.

І ня толькі Гомельская і Чырвона-Слабодзкая Інспэктуры зьяўляюцца зрыўшчыкамі:

Не адстаюць і Мазырская інспэктура, якая не прадставіла фармуляраў перапісу па Калінкавічах № 4, 17, 24 і 1, Лезьнянская Інспэктура, якая не прадставіла на Лезна № 22 і 2; па Высачанах—20, 21, 22 і 23; Пятрыкоўская Інспэктура, якая не прадставіла па Петрыкаву № 20, 22 і 23, а па Капаткевічах зусім не правяла перапісу; Смалевіцкая Інспэктура па Смалевічах № 20, 21, 23 і 2; Сеньненская Інспэктура па Сенно № 24, 15, 16, 20, 21, 22, 23 і 2; Старобінская Інспэктура па Старобіну № 2, 20, 21, 22 і 23, Суражская Інспэктура па Суражу № 20 22, 16 і 2, па Янавічах—2, 16, 22, па Ноўках—2, 16, 21, 22 і 23, Дзяржынская Інспэктура № 20 і 23, Дубровенская Інспэктура—па Дуброўне 4, 14, 22 і 2 і па Лядах № 5...

*Кіраўнік перапісу камунальнай гаспадаркі ШЭЎЧУК.*

## Віцебск—вопытны цэнтр па перабудове вучотнай працы.

Тав. Ленін нас вучыў, што *„вучот і кантроль—вось галоўнае, што патрабуецца для наладжваньня, для правільнага функцыяваньня першай фазы камуністычнай грамады"*.

На вялікі жаль, некаторыя гора—кіраўнікі прадпрыемстваў і арганізацый гэтых Ленінскіх прынцыпаў не жадаюць разумець, і аб гэтым можа сьведчыць вучотны матар'ял прадпрыемстваў, які паступае у Інспэкцыю Наргасвучоту. Там вы убачыце зусім розныя лічбы на адно—і тое-ж запытаньне, аднаго тэрміну, за подпісам дырэктара (Мясакамбінат, Плодавінзавод, Хлебазавод), там вы убачыце „очковтирательство" некаторых прадпрыемстваў, у лічбах (з прычыны,

напрыклад, адсутнасьці на ф-цы „Сьцяг індустр." кантролю табэляй з цахоў, атрымоўваецца вялікае разыходжаньне у адпрацаваных чалавека-днёх паміж табэлямі і ведамасьцямі на зарплэсыю, ў сярэднім—каля 3.000 ч.—д.)

Там можна убачыць, што у штомесячных справаздачах паказваюцца адны лічбы, а Гаркому партыі, за той—жа тэрмін, даюцца іншыя лічбы („Чырвоны Мэталіст"—па пытаньні прагулаў).

А плянавік ф-кі „Кім" кажа:

—„Што мне да вучоту? У мяне шмат работы па выпрацоуцы пляну",

—„А як—жа вы наглядаеце за ходам выкананьня пляну? запытвае прадстаўнік Інспэкцыі Наргасвучоту.

—„Да дазвольце, я ведаю свае функцыі!" Адказвае прыкрыўшыся назвай „плянавік", а на справе не жадаючы зразумець, што складаньне пляну і выкананьне яго есьць неразрыўная частка.

Загадчык-жа плянавым аддзелам ф кі „Дзьвіна" тав. *Новік* кажа, што: „мы лічбам статыстыкі ня верым, а калі нам патрэбны лічбы, ня гледзячы на наяўнасьць іх у вучотнай ячэйцы, то мы, для набыцьця іх, ставім паралельную вучотную працу!.."

Вось як змагаецца тав. *Новік* за арганізацыю правільнага вучоту у цэху і у вучотнай ячэйцы!

Шмат падобных прыкладаў, але і гэтага досыць для характарыстыкі пастаноўкі вучоту на некаторых прадпрыемствах.

Прэзыдыум Гарсавету прыняў некаторыя меры для зьнішчэньня гэтага, аддаючы пад суд некаторых кіраўнікоў прадпрыемстваў (плянавік Мясакамбінату, загадчык ф-кі ім. Калініна)

У мэтах-жа перабудовы вучотнай працы у адпаведнасьці з дырэктывай партыі і ураду,—пастановай Кіраўніцтва Народна-гаспадарчага вучоту БССР—Віцебская Інспэкцыя Наргасвучоту становіцца вопытным цэнтрам па перабудове усей вучотна-статыстычнай працы.

Перш за усе, гэтымі днямі Інспэкцыя прыступае да праверкі пастаноўкі нізавога вучоту па буйнейшых прадпрыемствах і ведамствах Віцебску, прычым вынікі гэтага абсьледваньня, з мэтай перабудовы усёй вучотнай працы, будуць абмяркоўвацца на пашыранай нарадзе усіх вучотных працаўнікоў гораду.

У праграму гэтага абсьледваньня уваходзіць:

а) вывучэньне аб'ему і зьместу працы як у цаху, гэтак і па прадпрыдмству у цэлым.

б) устанаўленьне нагрузкі вучотных працаўнікоў

в) Ліквідацыя паралелізму ў вучотнай працы.

г) Як выкарыстоўваецца вучотна-статыстычны матар'ял адміністрацыяй, бухгальтэрыяй і Плянавым Аддзелам.

д) Самастойнасьць у працы вучотнай ячэйкі.

е) Мэтады зьбіраньня вучотна статыстычнага матар'ялу, якасьць яго і выкананьне ва ўстаноўленыя тэрміны.

ж) Праверка ужываньня зацьверджаных форм ЦКНГВ СССР і КНГВ БССР.

*Аб падрыхтоўцы вучотных кадраў.* З гэтай праграмы бачна, што данае абсьледваньне вельмі сур'езна, ў сувязі з чым неабходна адпаведная дапамога, як з боку партыйных, камсамольскіх, прафсаюзных арганізацый і шырокай рабочай грамадзкасьці, гэтак і з боку самага прадпрыемства.

Неабходна адзначыць, што частка віны у дрэннай пастаноўцы вучотнай працы на прадпрыемствах падае і на Гарпрафсавет, бо апошні, ня глядзячы на канкрэтную дырэктыву ЦСПСБ аб арганізацыі ВОСУ (Усебеларускае Т-ва Садзейнічаньня Сацыялістычнаму вучоту), дагэтуль нічога не зрабіў.

Такім чынам,—аб'яднанымі сіламі на выкананьне дырэктыў партыі і ураду (пастанова СНК БССР ад 13/VIII-32 г.) па ператварэньні вучоту у сапраўдную зброю плянаваньня і праверкі выкананьня пляну!

Інспэктар Наргасвучоту Віцгарсавету *Шметар*

# ПЫТАНЬНІ І АДКАЗЫ

**Пытаньне**: Ці падлягаюць вучоту с/г. прадпрыемствы па рабочаму забесьпячэньню, прымацаваныя да рознага роду ўстаноў? (бальніцы, дамы адпачынку, дзіцячыя камуны і г. д.)

**Адказ**: Гэтыя прадпрыемствы вучоту не падлягаюць. Улічваць неабходна толькі тыя прадпрыемствы, якія непасрэдна абслугоўваюць прамысловае прадпрыемства (фабрыку, завод, майстэрню, будаўніцтва, транспарт—водны, чыгуначны) праз зачынены разьмеркавацель і сталоўку, альбо непасрэдна саміх рабочых.

Таксама не патрэбна ўлічваць с/г. прадпрыемствы Райпо, маючыя мэтай забясьпечыць усе насельніцтва, а не рабочых адпаведнага прадпрыемства.

**Пытаньне**: Як быць з тым матар'ялам па пашпартызацыі гарадоў, якога ў горадзе ніяк атрымаць нельга?

Напр: Разд. VII—„Жылы фонд горада".

**Адказ**: Пашпарт неабходна запоўніць па тых матар'ялах, якія маюцца ў горадзе, а астатнія (магчыма атрымаць у КНГВ) будуць запоўнены ў КНГВ.

З-за гэтага дасылку пашпарта не затрымліваць.

**Пытаньне**. Па якіх прадпрыемствах камун прызначэньня павінны давацца зьвесткі па кан'юнктуры?

**Адказ**. Зьвесткі даюцца па ўсіх прадпрыемствах камунальнага прызначэньня незалежна ад ведамственнай падпарадкаванасьці (лазьня чыг., асабоз спраўдома).

# Раўняйцеся па перадавых

## Перапіс будаўніцтва

(1931-1932 г.)

(Своечасова даслалі матар'ялы).

1. Старыя-Дарогі — Інструктар Радзюкевіч.
2. Мазыр—Аўчыньнікаў
3. Талочын—Пэўзьнер
4. Полацак—Александровіч
5. Брагін—Белахвосьцік

## Па квартальнаму ву чоту с-г сэктару

1. Шклоў—Бабкоў
2. Крычаў—Мошчанка
3. Магілеў—Зумент
4. Чэрыкаў—Дуброўскі

## Па зводна—бягучаму вучоту кам. гасп.

1. Віцебск—Шметар
2. Гомель—Флеер

## Абсьледваньне вытворчасьці будматар'ялоў за 1932 г.

(Своечасова даслалі матар'ялы)

1. Віцебск—Шметар
2. Заслаўе—Міцько
3. Старыя-Дарогі — Радзюкевіч
4. Чавусы—Майсеенка
5. Асіпавічы—Грышкоў

# На буксір—адстаючых

## Перапіс будаўніцтва

(Зусім не даслалі матар'ялаў)

1. Лепель—Шульга
2. Прапойск—Іваноў
3. Рагачоў—Дубкін
4. Чавусы—Майсеенка
5. Сенно—Сіроткіна

## Па зводна—бягучаму вучоту кам. гасп.

1. Магілеў—Зумент
2. Бабруйск—Ляўковіч

## Па зводна—бягучай справаздачнасьці прамысловасьці

1. Наркамсnаб—Арш.
2. Наркамцяж—Ермалова
3. Наркамлес—Сэкт. Вуч.

# Абсьледваньне вытворчасьці будматар'ялоў за 1932 г.

(Зусім не даслалі матар'ялаў).

1. Бабруйск—Ляўковіч
2. Бягомль—Карнікаў
3. Ветка—Пятроў
4. Вушачы—Жукаў
5. Горкі—Аніхоўскі
6. Ельск—Абрамовіч
7. Круглі—Астроўскі
8. Лагойск—Макарэвіч
9. Лельчыцы—Грыцкевіч
10. Лепель—Шульга
11. Прапойск—Іваноў
12. Петрыкаў—Пінчук
13. Рачыца—Бялугін
14. Сянно—Сіроткіна
15. Сіроціно—Салаўёў
16. Старобін—Міхаеў

## Па квартальнаму вучоту с-г.

1. Глуск—Ліўшыц.
2. Ельск—Абрамовіч.
3. Петрыкаў—Пінчук.

## Па грамадзкаму харчаваньню:

Белкаапт рэст—Сульгіна

## Па тавараз вароту:

Белкаапсаюз—Сектар Вучоту

НКФ—Сэктар Вучоту

*І. Шустэрман*

---

# Аб мэтадах абсьледваньня пастаноўкі і становішча вучотна-статыстычных работ

(У парадку абгаварэньня)

Да ліку найбольш важных функцый, якія ўскладзены на апараты КНГВ, у мэтах палепшаньня ўсяго народна-гаспадарчага вучоту, неабходна аднесьці працу па абсьледваньні пастаноўкі і становішча вучоту і справаздачнасьці па розных наркаматах і гаспадарчых арганізацыях.

У дырэктывах па складаньні пляну вучотна-статыстычных работ на 1933 г. падкрэсьлена, што „*выключна важнай работай рэспубліканскіх КНГВ зьяўляецца работа па кіраўніцтву ведамственнымі органамі вучоту*“.... і што „*неабходна ў першую чаргу разгарнуць працу абсьледчага характару*“.

Аднак, практыка цэлага раду абсьледваньняў, зробленых на працягу 1932 г., паказвае, што праца па гэтай галіне мае шмат недахопаў, да

лізу якіх трэба аднесьці пытаньне аб мэтадах і *формах абсьледваньня* і, па другое, што абсьледаваныя ведамствы КНГВ не дамагаюцца да канца правядзеньня ў жыцьцё усіх тых прапаноў, якія зроблены на падставе вывадаў абсьледваньняў.

На вялікі жаль, прыходзіцца канстатаваць, што ні сэктар мэтадалегіі, ні сэктар арганізацыі і рэканструкцыі вучоту самаго КНГВ СССР дагэтуль не займаліся тым, каб даць канкрэтны напрамак сваім апаратам на месцах, як патрэбна будаваць рабочыя праграмы пры абсьледваньнях. Мы добра ведаем, што, у большасьці сваёй плян і праграма абсьледваньня, як і самы выбар аб'екта, вельмі часта ідуць самацёкам.

І, улічваючы актуальнасьць данага пытаньня, якое пастаўлена у парадак дню, мы гэтым артыкулам паставілі сабе мэтаю: шляхам абмену вопытам з кіраўнікамі і паасобнымі адказнымі выканаўцамі як апаратаў КНГВ, гэтак і паасобных устаноў,—дабіцца адзіных мэтадаў гэтай працы; мы лічым, што, абагуліўшы вопыт многіх кіруючых працаўнікоў, мы знойдзем у калектыўнай вытворчасьці адзіны шлях і агульную мову для ажыцьцяўленьня гэтай важнай справы.

Перш за ўсё, неабходна заўважыць, што ў абсьледваньні, як і ва ўсякай працы—самае галоўнае гэта—мець яскравую мэту абсьледваньня:

ад мэты абсьледваньня цалкам залежаць яе плян і праграма работ.

Уся праца па абсьледваньні падзяляецца на два асноўныя моманты:

1) Высьвятленьне самаго становішча вучоту і справаздачнасьці у час абсьледваньня (па асабістай праграме) з пункту погляду адпаведнасьці асноўным інструкцыям, якя маюцца ў данай установе; 2) з пункту погляду мэтазгоднасьці, прыгоднасьці і адпаведнасьці, ўсей існуючай сыстэмы вучоту альбо асобных яго вучасткаў, альбо нават, паасобных форм—мэтам плянаваньня, кантролю і апэрацыйнага кіраўніцтва.

У тым выпадку, калі аб'ектам абсьледваньня зьяўляецца Наркамат, альбо буйная цэнтралізаваная ўстанова, на разглядзе становішча чыста бухгальтарскага вучоту і справаздачнасьці тут менш за ўсё магчыма застанаўлівацца, так як абсьледваньне цэнтралізаваных буйных устаноў і наркаматаў ідзе ў справаздачна-эканамічных сэктарах (СЭС), куды сьцякаецца ўся справаздачнасьць статыстычная, а калі і прыходзіць справаздачнасьць бухгальтарская, дык гэты сэктар займаецца ёю выключна з мэтай статыстычнай апрацоўкі даных, узятых з гэтых справаздачнасьцяй, якія туды прыходзяць ад усіх сваіх ніжэйстаячых зьвеньняў.

Тут праграма абсьледваньня бывае, прыкладна, наступная:

1) Азнаямленьне з афіцыйнымі інструкцыямі па вучоту і справаздачнасьці СЭС у двух напрамках: а) перадаваемай у цэнтр і розным другім арганізацыям б) атрымліваемай ад сваіх зьвеньняў.

2) Парадак і фактычны мэтад праходжаньня справаздачнасьці:

а) зьнізу уверх—ад ніжэйстаячага зьвяна да цэнтра—Наркамат альбо Аб'яднаньне; б) ад Аб'яднаньня альбо Наркамата рэспублікі, краю, вобласьці і г. д. да Усесаюзнага цэнтру альбо іншых спэцыялізаваных Усесаюзных арганізацый.

3) Азнаямленьне са штатам і разьмеркаваньнем абавязкаў у галіне вучотна-статыстычных работ арганізацыі.

4) Тэрміны прадстаўленьня асобных форм справаздачнасьці, вывучэньне асобных фор пярвічных і зводных справаздачнасьцяй, ступень уразуменьня гэтых форм і запазычанасьць па іх выкананьні.

5) Вывучэньне пытаньня рацыяналізацыі вучоту, ці маюцца паасобныя сэктары рацыяналізацыі і ці займаюцца яны, альбо хто з супрацоўнікаў, пытаньнямі рацыяналізацыі і вучоту.

6) Аналіз атрыманых у працэсе абсьледваньня матар'ялаў, вывады і прапановы.

Калі-ж абсьледваньне вядзецца ва ўстанове выключна гаспадарчай (гандлёвай, прамысловай, альбо сельска-гаспадарчай), тады, зразумела, акрамя разгледжаньня форм і парадку праходжаньня статыстычных справаздачнасьцяй, неабходна большасьць увагі зьвярнуць на азнаямленьне са становішчам бухгальтарскага вучоту па наступных пунктах:

Разгляд намэнклятуры (рахунковы плян).

2) Разгляд карэспандэнцыі і рахункаў.

3) Азнаямленьне з унутранымі пытаньнямі па вучоту.

4) Азнаямленьне з формай рахункаводзтва.

5) Азнаямленьне з пастаноўкай кніг, альбо картак (формы і графоўка) сынтэтычнага і аналітычнага вучоту.

6) Дасьледваньне (вывучэньне па сутнасьці) паасобных рахункаў (напрыклад, калектыўных, якія,па сутнасьці, зьяўляюцца і павінны быць аналітычнымі) і г. д.

7) Разгляд блянкаў унутранай дакумантацыі, парадак праходжаньня і захоўваньня іх

8) Вывады (аналіз атрыманых матар'ялаў) і прапановы па зьнішчэньні знойдзеных дэфэктаў.

Да рэчы, лічым неабходным рэкамандаваць карыстацца вельмі выгаднай таблічкай, якая на ўвесь час працы па абсьледваньні дае магчымасьць плянамерна фіксаваць матар'ялы, набытыя ў працэсе работы. Гэтая таблічка ўзята з кнігі Энгельбернара—„Мэтодыка абсьледваньня“.

Замест-жа кожнай графы таблічкі, адводзіцца асобны ліст, альбо некалькі, на час абсьледваньня.

| На што належыць зьвярнуць увагу | У чым была памылка | Што належала зрабіць | Якіх вынікаў магчыма чакаць |
|---|---|---|---|

Вынікі зробленага абсьледваньня, вывады і прапаноsы павінны быць прадметам шырокага абгаварэньня на калектыўным сходзе ра-

ботнікаў абсьледванай установы і, лепш за ўсе, яшчэ да афармленьня вынікаў і прапаноў, асобным актам абгаварыць апошнія на вытворчай нарадзе.

Наогул, усе абсьледваньне належыць рабіць спачатку па асобных гал нах (вучастках) рахункава-статыстычнага апарату і, толькі пасьля глыбокага абсьледваньня гэтых састаўных частак-мэтазгодна сканцэнтраваць максымум увагі на цэнтральнай частцы апарата (СЭС, ПЭА і г. д.) альбо на якой небудзь іншай частцы апарату, якая ведае усёй *зводнай* справаздачнасьцю.

Пры гэтым, работу па абсьледваньні якой небудзь часткі рахунква-статыстычнага апарату належыць пачынаць абавязкова з высьвятленьня функцый, выконваемых гэтай часткай. Папярэдня-жа неабходна, як ужо вышэй падкрэсьлена, вывучэньне істоты палажэньня, інструкцый па рахунковай і статыстычнай справаздачнасьці данага апарату і яго частак, прычым абсьледвацель павінен ставіць перад кіраўніком вучотнага апарату пытаньне аб задачах данага апарату ў частцы вучоту, аб функцыях і паступовасьці прахаджэньня работ.

Практыка нашых асабістых абсьледваньняў прывяла нас да думкі аб яшче адным вельмі карысным спосабе, як для падрабязнага азнаямленьня з функцыямі паасобных частак апарату, гэтак і для прабуджэньня калектыўнай думкі працаўнікоў абсьледваемага апарату з мэтаю атрыманьня максымума рацыяналізатарскіх прапаноў.

Гэты спосаб месьціцца ў наступным:

Прапануюць кіраўніку СЭС, альбо адказнаму выканаўцы яго, пасьля допытаў і абмеркаваньняў, прадставіць абсьледвацелям у пісьмовай форме свае думкі:

які́я яны змаглі-бы унесьці прапановы, вядучыя да максымальнага скарачэньня і спрашчэньня справаздачнасьці іх форм і найхутчэйшага прахаджэньня апошніх па розных інстанцыях? Альбо-ж перад асобнымі адказнымі выканаўцамі у час абсьледваньня ставіцца пры кожнай магчымасьці пытаньне аб тым, чаго яны ў справаздачнасьці усёй сыстэмы ці паасобных форм (у сэнсе іх пабудовы, тэрмінаў, парадку прадстаўленьня) лічуць непатрэбным *і як бы яны арганізавалі зараз вучот і справаздачнасьць, калі-б зараз яна (справаздачнасьць) была ўзноў арганізавана імі самімі?*

Гэтакага роду матар'ялы, будучы прадметам глыбокага і сур'ёзнага абгаварэньня вытворчых нарад абсьледуемай арганізацы, сумесна с абсьледвацелямі, даюць вельмі каштоўны матар'ял для неабходных вывадаў і прапаноў.

Апошняй-жа і самай цяжкай працай ў абсьледваньні зьяўляюцца вытварэньне аналіза даных абсьледваньня, пастаноўка вывадаў і выпрацоўка прапаноў.

Прымаючы пад увагу круг пытаньняў, намечаных канкрэтнай

праграмай абсьледаваньня пастаноўкі і становішча вучоту і справаздач-
насьці, мы, пры сваім аналізе здабытых матар'ялаў, павінны прытрым-
лівацца суровага адказа на пытаньні, пастаўленыя абсьледваньнем, аб-
мяжоўваючыся, па магчымасьці, краткай і яскравай характарыстыкай
станоўчых і адмоўных момантаў працы і кіруючыся, прыкладам, на-
ступнай схэмай:

*1. Сыстэма вучоту і справаздачнасьці ўстановы, альбо аргані-
зацыі* (характарыстыка асобных форм і ўсей сыстэмы з прыкладань-
нем афыцыйных інструкцый па вядзеньні і запаўненьні справаздачнась-
цяй, а таксама і бланкаў характарызуемай справаздачнасьці).

*2. Структура апарату, абавязкі і разьмеркаваньне працаўнікоў*
(ступень нагрузкі, адхіленьня іх ад нормы і прычыны гэтага).

*3. Агульнае становішча вучоту і справаздачнасьці* (ступень зра-
зуменьня існуючых форм вучоту і запазычанасьць па тэрміновай спра-
ваздачнасьці).

Пасьля дэталёвага аналізу здабытых у працэсэ абсьледваньня
матар'ялаў, усебаковай крытыкі сыстэмы, форм і мэтадаў пастаноўкі
і становішча вучотна-статыстычных работ, абсьледвацель павінен асоб-
на падкрэсьліць усе недахопы працы і даць шэраг практычных пра-
паноў, якія змаглі-б зьнішчыць ўсе недахопы і накіраваць работу на на-
лежную вышыню.

Зразумела, што пасьля пэўнага пэрыяду часу, а, у іншых выпад-
ках, у вельмі кароткі час, *абсьледвацелям* неабходна заняцца праверкай
ажыцьцяўленьня ўсіх тых прапаноў, якія намечаны ў працэсе абсьлед-
ваньня і павінны былі палепшыць пастаноўку вучоту.

Вядучы барацьбу за дакладную лічбу, якую павінен даваць са-
цыялістычны вучот, як сродак плянаваньня, кіраваньня і кантролю
нашай сацыялістычнай гаспадаркі, мы перш за ўсё павінны ліквіда-
ваць усё тое, што перашкаджае гэтаму вучоту даваць пэўную лічбу.
Пры гэтым, лічучы, што вобласьць мэтадалёгіі абсьледваньня вучоту
яшчэ зусім мала распрацавана і ведаючы аб тым, што пералічанымі
прыкладамі мэтадаў абсьледваньня далёка ня вычэрпваюцца характар
і круг пытаньняў, якія могуць стаяць перад кожным абсьледвацелем
справы вучоту, спадзяюся, што зацікаўленыя кіраўнікі вучотна-ста-
тыстычных сэктароў Наркаматаў і буйных Аб'яднаньняў, а таксама
і зацікаўленыя ў гэтай справе адказныя выканаўцы апарата ЦК НГВ
СССР і на мясцох—выкажуць у бліжэйшых нумарох сваіх „Бюлятэняў"
свае думкі і прапановы, якія, безумоўна, маюцца ў іх на падставе аса-
бістага вопыту.

**АД РЭДАКЦЫІ:** Рэдакцыя просіць кіраўнікоў СЭС, экономістых
і работнікаў вучоту выказацца на старонках на-
шага „Бюлятэня" па сутнасьці закранутых пы-
таньняў.

ЗЬМЕСТ



---


Адказны рэдактар **Магідаў У.**
Рэдкалегія: **Шындлер С.**
**Сьлявін С.**
**Тевах Д.**
**Альтшулер**


